



# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

8 лістапада 2019 года №45 (1280) 18+








# Разыходзімся.

## У Залессі разглядаюць закрыццё лабараторыі ў мясцовай амбулаторыі

**Дзіцячы садок, аптэку і бальніцу ўжо закрылі**

старонкі 2-3

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

**Як раней называлася вуліца Грамадоўская ў Маладзечне**

старонка 17

**Ён плаваў у ЗША чатыры разы**

Чарговая гісторыя чытача, які знайшоў сваякоў дзякуючы «Рэгіянальнай газеце»

старонка 17

**Культурныя маршруты Рады Еўропы**

Што набудзе Беларусь ад удзелу ў праграме

старонкі 18-19

**Пенсія маці на 200 рублёў большая, чым заробак дачкі**

старонка 8

ISSN 1991–7155




Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



# У Залескай амбулаторыі збіраюцца

## Мясцовыя жыхары супраць

**Пятніца. 13:00. Нягледзячы на разгар рабочага дня, у Залескім Доме культуры сабралася больш за 50 чалавек. Мясцовыя прыйшлі на сустрэчу з прадстаўнікамі Галоўнага ўпраўлення аховы здароўя Гродзенскага аблвыканкама. Людзі ўзрушаныя тым, што ў Залескай амбулаторыі збіраюцца зачыніць лабараторыю.**



Мясцовыя жыхары на сустрэчы з абласным кіраўніцтвам Упраўлення аховы здароўя.

СМАРГОНЬ

– Мы даведаліся, што прынята рашэнне зачыніць нашу лабараторыю і скараціць стаўку лабаранта. Кажуць, два разы на тыдзень будзе прыязджаць са Смаргоні лабарант, браць аналізы і адвозіць у Смаргонь. Нас гэта не задавальняе. Што значыць два рызы на тыдзень? Чалавек можа захварэць у любы дзень. Што тады, у Смаргонь ехаць? А там чэргі такія, што немагчыма прабіцца. А людзі старэюць. Іх нават у Залессе з навакольных вёсак цяжка давезці. А дзяцей малых? – дзеліцца набалелым мясцовая жыхарка **Тамара Ліс**.

Вяскоўцы хвалююцца, што праз пэўны час і амбулаторыяператворыцца ў ФАП. Прыгадваюць зачыненую бальніцу, аптэку і дзіцячы садок.

Жыхары Залесся сабралі 435 подпісаў, накіравалі звароты раённым і абласным уладам з просьбай пераглядзець пытанне пра закрыццё лабараторыі.

1 лістапада прадстаўнікі Галоўнага ўпраўлення аховы здароўя Гродзенскага аблвыканкама прыехалі ў Залессе, каб разгледзець пытанне на месцы.

Як распавялі прадстаўнікі з Гродна, сёння сапраўды паўстала пытанне цэнтралізацыі дробных лабараторый па Беларусі.

– Медыцына развіваецца, – патлумачыла начальнік Упраўлення арганізацыі медпамогі **Святлана Лазута**. – Таму вызначаць ручным спосабам тры паказчыкі – гемаглабін, лейкацыты, СОЭ – няправільна. Для доктара трох паказчыкаў недастаткова. У Смаргонскай бальніцы ёсць аўтаматычныя і паўаўтаматычныя аналізатары. Яны дазваляюць зрабіць аналіз больш якасна і дакладна. Таму не думайце, што вы губляеце нешта дарагое. Зразумейце, вам будзе толькі лепш.

Па словах спецыялістаў, калі лабараторыю зачыняць, усё роўна кроў у амбулаторыі будуць браць. Прыедзе лабарант, возьме аналіз і адвязе на аналізатар у Смаргонь.

### Мясцовыя не вераць, што лабарант зможа прыязджаць штодзень

– Лабарант дакладна будзе прыязджаць кожны дзень? – гучаць

# Закупляйцеся і эканомце разам з дыскаўнтарам «Святлафор»



**Вы ведалі, што ў Маладзечне ёсць магазін, дзе можна адразу набыць прадукты і дзіцячае харчаванне, гігіенічныя сродкі і цацкі, спартыўныя тавары, трыкатаж, абутак, аўтакасметыку, кухонны і сталовы посуд, прылады для сада і агарода, корм для дамашніх гадаванцаў?.. Пры гэтым рэальна зэканоміць ад 15 да 40 працэнтаў сямейнага бюджэту.**



МАЛАДЗЕЧНА

Такая магчымасць ёсць у маладзечанцаў і жыхароў рэгіёна дзякуючы жорсткаму дыскаўнтару «Святлафор», які працуе ў горадзе ўжо год.

### Прадуктаў ад беларускіх вытворцаў – больш за палову

Сёння ў «Святлафоры» – каля дзвюх тысяч найменняў тавараў і тысяча квадратных метраў плошчы. Пры гэтым – 15 супрацоўнікаў.

Тавары тут не раскладаюць па паліцах, як у звычайных магазінах. Яны стаяць групамі ў паддонах або ляжаць на стэлажах. Мясныя прадукты, рыба, сыры захоўваюцца ў спецыяльным халадзільным пакоі.

Тавараў з маленькім тэрмінам прыдатнасці ў магазінах не прадаюць. Тут няма фруктаў, хлеба, «малочкі». Затое вялікі выбар сухафруктаў, арэхаў, цукерак, пячэння, круп, кавы, чаю, рыбных, мясных і гародніннных кансерваў. Шмат тавараў у пакунках вялікай вагой: арэхаў і сухафруктаў можна набыць адразу па паўкілаграма, макароны – і два, і пяць кілаграмаў.

Тое ж самае – і да мыйных сродкаў. Вадкае мыла – у пяцілітровых бутэльках, пральны парашок – у вялікіх пачках.

У магазіна ёсць пастаянныя пастаўшчыкі, але ўвесь час з'яўляюцца новыя, бо асартымент пастаянна абнаўляюць. 60-70% прадуктаў – ад беларускіх вытворцаў. Іншыя групы тавараў – у большасці ад вытворцаў з Расіі і Польшчы.

### Рыхтуйцеся са «Святлафорам» да зімы і Новага года

Па назіраннях супрацоўнікаў, маладзечанцы ўжо паспелі палюбіць магазін. Найбольш пакупнікоў у выхадныя. Тут да жыхароў Маладзечна далучаюцца яшчэ і суседзі з іншых раёнаў. Хтосьці заходзіць у будны дзень пасля працы. Некаторыя ходзяць штодзень. І адразу заўважаюць, калі паддон з нейкім таварам перасунулі ў іншае месца.

Яшчэ адна асаблівасць «Святлафора» – арыентацыя на сезон. Вы ўжо рыхтуецеся да зімы? Тады завітвайце ў магазін за вялікімі пластыкавымі санкамі-лядзянкамі, цюбінгамі. Задумаліся пра Новы год? Вам таксама сюды. Да свята пашырылі асартымент дзіцячых цацак, привезлі ўпрыгожванні для ялінак, хлапушкі і салодкія навагоднія падарункі рознай вагі.

А як адзначыце навагоднія святы, прыходзьце ў «Святлафор» рыхтавацца да вясны. Ужо ў студзені сюды завязуць грунт, насенне, газонную траву, ёмістасці для расады. Як заўсёды, абяцаюць парадаваць вялікім выбарам і прыемнымі цэнамі.

**Ксенія ДУРОВІЧ.**

**Цэны на некаторыя тавары**

- Арахіс смажаны, 500 грамаў – **2,20 руб.**
- Цукеркі «З Новым годам», 230 грамаў – **4,25 руб.**
- Навагодні падарунак, 1 кг – **6,60 руб.**
- Навагодні падарунак, 500 грамаў – **3,28 руб.**
- Санкі-лядзянкі – **9,66 руб.**
- Табурэтка – **6 руб.**
- Набор дзіцячага посуду, шкло – **6,67 руб.**
- Бакалы для віна, 6 штук – **8,61 руб.**
- Крэсла – **20,41 руб.**

# зачыніць лабараторыю


1 лістапада камісія з Гродна працавала ў Залескай амбулаторыі.


Закрыццё аптэкі таксама стварае нязручнасці мясцовым жыхарам.

пытанні з залы.

– Дакладна кожны дзень. Калі глядзець на досвед іншых амбулаторый у падобнай сітуацыі, лабарант выязджае штодзень, – абяцае Святлана Лазута.

– Загадчык амбулаторыі сказаў нам, што можна толькі два разы на тыдзень прывозіць лабаранта.

– Гэта пытанне не ў кампетэнцыі загадчыка амбулаторыі, – адказваюць спецыялісты.

Па словах пазаштатнага спецыяліста Упраўлення **Ліліі Бахаравай**, выезд лабаранта і дастаўка аналізаў у Смаргонь палепшыць якасць дыягностыкі. Напрыклад, дзякуючы зменам хутка ў Залессі будуць браць аналіз на гармоны. Паабяцалі, што калі раніцай здасі аналіз, у той жа дзень пасля абеду вынікі даследавання прыйдуць доктару на вайбер або на электронную пошту.

– А што будзе з іншымі аналізамі: мачы і калу, – цікавяцца маладыя бацькі.

– Тое ж самае: прыйшлі ў амбулаторыю, паставілі аналіз і сышлі, – тлумачыць пазаштатны спецыяліст. – Усё гэта завязуць у смаргонскую ЦРБ.

– Ці можна зрабіць, каб наша лабарантка брала ў амбулаторыі кроў з вены? – не заканчваюцца пытанні.

– Не. Гэта ж фельчар-лабарант. Каб браць аналіз з вены, ёй трэба пайсці ў каледж і дадаткова адвучыцца на медсястру.

### Пыталіся пра бальніцу і талоны

Трапіўшы на сустрэчу з абласным начальствам, жыхары задавалі і іншыя балючыя пытанні пра медыцыну. Пра тое, што жыхарам Залесся не трапіць у смаргонскую бальніцу. Хаця калі зачынялі мясцовую, абяцалі, што такіх праблем не будзе. Выканальнік абавязкаў галоўнага доктара Смаргонскай ЦРБ **Віталь Круповіч** адказаў, што праблемы сапраўды ёсць у аддзяленнях кардыялогіі, тэрапіі і часткова неўралогіі.

Хвалявала людзей і тое, што да вузкіх спецыялістаў цяжка заказаць талон. Намеснік старшыні Смаргонскага райвыканкама **Генадзь Бычко** даручыў кіраўніку ЦРБ разабрацца з гэтым пытаннем.

Што да магчымага закрыцця лабараторыі – пытанне адкрытае. Пакуль яе не зачыняюць. Вывучаюць пытанне. А паколькі большасць насельніцтва супраць, вывучаць больш дэталёва.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**




## УП «Мінскае аддзяленне Беларускай чыгункі» інфармуе

**У сувязі з рамонтам чыгуначнага моста паміж станцыямі Маладзечна і Пруды 12 лістапада з 6:00 да 22:00 скразнога руху цягнікоў рэгіянальных ліній эканамкласа ад станцый Гудагай да станцыі Маладзечна і назад НЕ БУДЗЕ.**

Цягнікі рэгіянальных ліній эканамкласа адпраўленнем ад ст. Гудагай, ст. Солы будуць ісці да ст. Пруды і назад.

Перавозіць пасажыраў паміж станцыямі Пруды і Маладзечна будуць аўтобусы па дарозе Р-106 з прыпынкамі па запатрабаванні Насілава, Асанава, Лебедзева, Мароські без заезду на чыгуначныя прыпыначныя пункты.

Праезд у аўтобусах – па чыгуначных білетах.

УНП 600199541

**Расклад руху аўтобусаў на ўчастку Маладзечна – Пруды на перыяд работ 12.11.2019**

| Адпраўленне аўтобусаў ад станцыі Маладзечна | Прыбыццё аўтобусаў на станцыю Пруды | Адпраўленне цягнікоў ад станцыі Пруды | Прыбыццё цягнікоў на станцыю Гудагай, Солы |
|---|---|---|---|
| 6:20 | 7:00 | 7:10 | 8:15 |
| 8:30 | 9:10 | 9:20 | 10:25 |
| 11:50 | 12:30 | 12:40 **да станцыі Солы** | 13:19 **Солы** |
| 16:10 | 16:50 | 17:00 | 18:05 |
| 18:15 | 18:55 | 19:05 | 20:09 |
| 20:15 | 20:55 | 21:05 | 22:08 |

| Адпраўленне цягнікоў ад станцыі Гудагай, Солы | Прыбыццё цягнікоў на станцыю Пруды | Адпраўленне аўтобусаў ад станцыі Пруды | Прыбыццё аўтобусаў на станцыю Маладзечна |
|---|---|---|---|
| 5:34 | 6:35 | 6:45 | 7:25 |
| 8:58 | 10:00 | 10:10 | 10:50 |
| 13:37 **ад станцыі Солы** | 14:15 | 14:25 | 15:05 |
| 17:18 | 18:20 | 18:30 | 19:10 |
| 18:30 | 19:32 | 19:42 | 20:22 |

Пераканаўчая просьба **12 лістапада 2019 года** ў перыяд работ **устрымацца ад паездкі чыгуначным транспартам на гэтым участку.**

У выпадку неабходнасці паездкі просім вас улічыць, што яе працягласць у гэты дзень павялічыцца.

Інфармацыю аб раскладзе руху цягнікоў удакладняйце на станцыях, прыпыначных пунктах, у кантакт-цэнтры Беларускай чыгункі **па тэлефоне 105, на сайце www.rw.by** да пачатку паездкі.

**Глядзіце расклад гарадскіх аўтобусаў Маладзечна на rh.by/sched**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 31.10 руб. | 6.11 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2.0544 | **2.0413** |
| Еўра | 2.2840 | **2.2724** |
| Злоты, 10 | 5.3530 | **5.3291** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2188 | **3.2265** |
| Грыўня, 100 | 8.2179 | **8.2629** |
| **Курсы ў «Банку БелВЭБ»** | **30.10** | **5.11** |
| Еўра | 2.2600/2.2880 | **2.2600/2.2850** |
| Долар ЗША | 2.0480/2.0630 | **2.0300/2.0500** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | **30.10** | **5.11** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,33 | **19,80** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,90 | **3,95** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,58 | **7,37** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,60 | **15,60** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,40 | **1,40** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,70 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 2,80 | **2,80** |
| Баклажаны, 1 кг | 1,80 | **1,80** |
| Бульба, 1 кг | 0,50 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Кабачок, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Морква, 1 кг | 0,60 | **0,70** |
| Памідоры, 1 кг | 3,00 | **2,50** |
| Перац, 1 кг | 2,50 | **3,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **0,80** |
| Часнок, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Бананы, 1 кг | 3,10 | **2,90** |
| Вінаград, 1 кг | 2,90 | **3,90** |
| Гранат, 1 кг | 4,50 | **3,90** |
| Грушы, 1 кг | 2,80 | **3,50** |
| Дыня, 1 кг | 2,50 | **–** |
| Журавіны, 1 л | 3,50 | **5,00** |
| Кавун, 1 кг | 1,20 | **–** |
| Лімон, 1 кг | 4,60 | **3,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 6,00 | **3,50** |
| Хурма, 1 кг | 4,30 | **3,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,60 | **1,90** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Знайшлі труп 19-гадовага хлопца

МАЛАДЗЕЧНА

Пра гэта карэспандэнту паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

– 1 лістапада ў Маладзечне загінуў 19-гадовы хлопец. Маладзечанскія следчыя ўстанаўліваюць абставіны здарэння. Праводзіцца ўсебаковая праверка, прызначаныя экспертызы, – распавяла Таццяна Беланог.

Больш падрабязнасцяў не паведамляюць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Кіроўца грузавіка збіў веласіпедыста. Той памёр на месцы

АШМЯНЫ

31 кастрычніка каля 7:30 на 106 кіламетры аўтамабільнай дарогі Лынтупы-Свір-Смаргонь-Крэва-Гальшаны адбылося ДТЗ. Кіроўца грузавога аўтамабіля Volvo з прычэпам пры выкананні абгону наехаў на веласіпедыста, які рухаўся насустрач, паведамляе Следчы камітэт.

Ад атрыманых цялесных пашкоджанняў 56-гадовы мужчына памёр на месцы ДТЗ.

Следча-аператыўная група агледзела месца здарэння, цяпер праводзяцца неадкладныя следчыя і іншыя працэсуальныя дзеянні.

Ашмянскім раённым аддзелам Следчага камітэта ў дачыненні да 37-гадовага вадзіцеля ўзбуджаная крымінальная справа па ч. 2 арт. 317 Крымінальнага кодэкса. Усе абставіны высвятляюцца.

**Паводле Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь.**

## Сам расказаў міліцыі, што ў яго хляве гоніцца самагон

АШМЯНЫ

Ашмянскія міліцыянеры праводзілі рэйды па спыненні абароту самагону.

Адпрацоўвалі вёску Пагіры. Там яны наведалі 46-гадовага мужчыну. Той, пабачыўшы міліцыю, вырашыў распавесці, што якраз цяпер у яго ў хляве гоніцца самагон.

У памяшканні знайшлі самагонны апарат, 12 літраў гатовага да ўжывання самагону і 243 літры брагі.

Са слоў фігуранта, самагон ён гнаў для сябе. Раней да адміністрацыйнай адказнасці за падобныя правапарушэнні мужчына не прыцягваўся.

**Паводле УУС Гродна.**

## Каля Даўгінава адбылося ДТЗ

ВІЛЕЙКА

ДТЗ адбылося 1 лістапада каля Даўгінава.

41-гадовая жыхарка Мядзельшчыны на «Пежо» не саступіла дарогу на скрыжаванні 56-гадовай віляйчанцы на «Дача-Логан».

Як паведамілі ў Вілейскім РАУС, кіроўцы не пацярпелі. А вось аўтамабілям патрэбны рамонт. ДАІ праводзіць праверку здарэння.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



На месцы здарэння.

# За выхадныя на Маладзечаншчыне загінулі два пешаходы

МАЛАДЗЕЧНА

**У мінулыя выхадныя ў Маладзечанскім раёне ў аварыях загінулі два пешаходы. Па папярэдняй інфармацыі, абодва былі без флікераў.**

Першае здарэнне адбылося каля 18:30 у вёсцы Вязавец. 35-гадовы кіроўца на машыне «Мерсэдэс-Бэнц Е200» рухаючыся па шостым кіламетры аўтадарогі Маладзечна-Валожын наехаў на 43-гадовага мужчыну, які пераходзіў праезную частку дарогі злева направа па ходзе руху паблізу пазначанага пешаходнага перахода, паведамляюць у прэс-службе МУС.

У выніку ДТЗ пешаход атрымаў цялесныя пашкоджанні і памёр на месцы здарэння.

Другое здарэнне адбылося на наступны дзень таксама ўвечары на аўтадарозе Мінск-Маладзечна-Нарач, паведаміў карэспандэнту старшы інспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош**.

42-гадовы кіроўца, жыхар сталіцы, ехаў на машыне «Мерсэдэс-Бэнц» у кірунку Мінска. Ля павароту на вёску Гранічы ён наехаў на пешахода, што ішоў без флікера.

Ад атрыманых траўмаў 26-гадовы жыхар Маладзечаншчыны загінуў на месцы.

ДАІ Маладзечна звяртае ўвагу, што ў сувязі з пагаршэннем надвор'я, а таксама памянэннем светлавога дня пешаходам, раварыстам, кіроўцам конных падвод варта абазначаць сябе флікерамі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

● УВАГА! ВЫШУК

## Паехаў на заробкі ў Польшчу і знік

МАЛАДЗЕЧНА

Мужчына некалькі дзён не выходзіць на сувязь.

31 кастрычніка ў міліцыю звярнулася 56-гадовая гараджанка. Яна паведаміла, што яе 29-гадовы сын паехаў працаваць у Польшчу і ўжо другі дзень не выходзіць на сувязь. Па словах маці, мужчына адправіўся ў рэйс у горад Вольштын. Увесь час падтрымліваў сувязь са сваякамі праз мэсенджар.

Раніцай ён даслаў паведамленне, што хоча прысвяціць жыццё служэнню Богу. А пасля гэтага знік.

Крымінальны вышук Маладзечанскага РАУС вышуквае **Максіма Міхайлавіча Шавеля** 1990 года нараджэння. Дагэтуль месца яго знаходжання невядомае.



Прыкметы: рост каля 185 сантыметраў, светлыя вочы, цёмна-русыя кароткія валасы.

Ёсць заўважны шнар каля вялікага пальца на адной з кісцяў. На момант знікнення быў апрануты ў сінія спартыўныя штаны «Адзідас» або цёмныя джынсы, абуты ў спартыўныя чаравікі фірмы «Марка».

Калі вам штосьці вядома пра зніклага, паведаміце ў Маладзечанскі РАУС па тэлефонах: (8-029) 561-08-91, 697-37-03 або 102.

**Аддзел інфармацыі.**

## 53-гадовы маладзечанец біў посуд у бары

МАЛАДЗЕЧНА

Інцыдэнт адбыўся ў адным з гарадскіх бараў па Вялікім Гасцінцы. Двое знаёмых распівалі спіртныя напоі. Па словах работнікаў установы, на той момант яны былі адзінымі наведнікамі.

Калі адзін з таварышаў пакінуў бар, другі сыходзіць не збіраўся і запатрабаваў працягу застолля.

Вырашыўшы, што работніца ўстановы не звяртае на яго ўвагі, разбіў аб падлогу талерку.

Калі бармен наблізілася да мужчыны, каб сабраць аскепкі пабітага посуду, фігурант словамі накінуўся на яе, абяцаючы правучыць.

Затым мужчына нечакана схапіў работніцу бара за шыю і некалькі разоў ударыў яе галавой аб драўляную лаўку.

Ад далейшай расправы жанчыну выратаваў повар, які прыбег на крыкі аб дапамозе. Знайшоўшы момант, жанчына націснула трывожную кнопку.

На паведамленне выбылі праваахоўнікі. Дэбашыр паспрабаваў схавацца, але неўзабаве паблізу бара яго затрымалі супрацоўнікі аддзела Дэпартамента аховы. Міліцыянеры даставілі правапарушальніка ў Маладзечанскі РАУС для разбору.

Медыцынскі агляд паказаў 2,3 праміле алкаголю ў крыві мужчыны. У дзеяннях парушальніка ўгледжваюцца прыкметы складу злачынства, прадугледжанага ч.1 арт.339 КК Рэспублікі Беларусь (хуліганства), санкцыя якой прадугледжвае да трох гадоў пазбаўлення волі.

**Паводле прэс-службы Маладзечанскага РАУС.**

## Невядомы прадаў маладзечанцы фальшывыя манеты

МАЛАДЗЕЧНА

Невядомы мужчына еўрапейскай знешнасці прадаў жыхарцы Маладзечна нібы старадаўнія манеты. Але сапраўднасць іх не пацвердзілася. 30 кастрычніка маладзечанка звярнулася ў міліцыю.

Па словах афіцыйнага прадстаўніка Маладзечанскага РАУС **Юліі Крук**, удзень фігурант прадаў маладзечанцы сем манет з выявамі Мікалая ІІ, Лізаветы І, Кацярыны ІІ. Прадавец запэўніў жанчыну ў тым, што манеты старадаўнія. Казаў, што знайшоў іх падчас будоўлі. Спачатку фігурант прасіў за манеты 300 рублёў. Але потым пагадзіўся на 160.

Здзелка адбывалася ў Маладзечне па вуліцы Віленскай. Заяўніца з набыткамі вырашыла праверыць манеты ў ламбардзе. Спецыялісты не пацвердзілі іх сапраўднасць.

Як распавялі ў РАУС, фігурант быў на цёмна-барвовым аўтамабілі ВАЗ 2199 на расійскіх рэгістрацыйных нумарах. У нумары былі лічбы 145. Маладзечанскі РАУС праводзіць праверку здарэння.

Міліцыя заклікае грамадзян не набываць у незнаёмцаў на вуліцы рэчы, прадметы, каштоўныя манеты.

Грамадзян, якія бачылі дадзены аўтамабіль або ведаюць пра яго месцазнаходжанне, просяць паведаміць пра гэта ў міліцыю па тэлефонах: 102, 8 (0176) 77-16-56 (аператыўна-дзяжурная служба РАУС) або па адрасе: Маладзечна, Галіцкага, 23.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




# Арцём Русакевіч: «Я не ўмею прайграваць»

**Як з некалі стратнай арганізацыі стварыць кампанію, якая паспяхова канкуруе з мноствам прадпрымальнікаў? Як пераўтварыць калектыў у баяздольную каманду? Якім чынам павялічыць удвая выручку, не павялічваючы колькасць работнікаў?**



Дырэктар ААТ «Завод Рамбыттэхніка» Арцём Русакевіч.

Дырэктар ААТ «Завод Рамбыттэхніка» **Арцём Русакевіч** тлумачыць – ён не ўмее прайграваць. Гэта адзін з сакрэтаў паспяховасці яго кіраўніцтва.

### Паспяховыя старты

Некалькі гадоў таму кіраўніцтва раёна аб'яднала глыбока стратны раённы камбінат бытавога абслугоўвання і завод «Рамбыттэхніка». Такі крок павінны быў захаваць магчымасць аказваць насельніцтву раёна ўсе стандартныя бытавыя паслугі, і пры гэтым выраўняць эканоміку прадпрыемства.

**10 лістапада 2016 года кіраваць заводам пачаў Арцём Русакевіч. Дырэктар узяў курс на тое, каб зрабіць паслугі прадпрыемства як мага больш камфортнымі і сучаснымі. Адкрылі новыя паслугі, падраздзяленні, прыбралі тое, што не працавала.**

Не так даўно завод адкрыў пральню-хімчыстку. Яна паспяхова працуе, усе планы кіраўніка на яе збыліся. Пральня дае добрую якасць і прыбытак, а канкурэнты самі сябе зжылі. Цяпер пральня працуе ў дзве змены, плануюць запусціць і трэцюю змену, каб абсталяванне працавала без перапынку.

Пральняй пераважна карыстаецца бюджэтная сфера – дзіцячыя садкі, бальніцы. Абслугоўваюць установы Маладзечанскага, Ашмянскага, Астравецкага, Смаргонскага раёнаў, санаторыі Мядзельскага раёна.

Швейны цэх шые пасцельную бялізну, коўдры, ручнікі, абрусы, падушкі. Сышлі ад старых тканін і расфарбовак. Цяпер прадукцыя выглядае сучасна, і яе ахвотна купляюць. На ўсіх аб'ектах «Рамбыттэхнікі» можна набыць нашу прадукцыю. Прапануем прадукцыю на прадпрыемствах, дзе работнікі могуць набыць тавар у лік зарплаты.

– У сферы бытавых паслуг вельмі складана канкураваць з прыватнікамі, – дзеліцца дырэктар. – Але мы адсочваем, дзе што цікавае з'явілася. Нашы кліенты ведаюць, што нашы паслугі недарагія, але пры гэтым якасць нічым не горшая.

### Не толькі бытавыя паслугі

Бытавыя паслугі – гэта нізкадаходная ніша. Тут усё робіцца ўручную. Таму каб знайсці іншыя рэзервы, трэба адшукаць іншыя накірункі. Завод займаецца і прамысловым накірункам.

Цэх металаканструкцый завода загружаны на 150%. Работнікі не паспяваюць рабіць заказаную прадукцыю. Працуюць па 10 гадзін, выходзяць па суботах. За гэта атрымліваюць добрыя грошы, таму зусім не супраць.

Плануюць пашырыць наменклатуру металічных вырабаў. Вырабы будуць для розных сфер – ад аграрнай да чыгуначных мастоў.

### З калектывам трэба працаваць

Калі Русакевіч прыйшоў кіраваць з новымі падыходамі і ідэямі, былі тыя, хто не разумеў. За тры гады калектыў абнавіўся. Некаторыя сыходзілі самі, таму што не разумелі або не маглі справіцца.

**– Прыемна, калі калектыў глядзіць з табой у адным накірунку, – дзеліцца дырэктар. – Цяпер у нас цалкам баяздольны калектыў. Каб каманда склалася, варта з ёй працаваць.**

Ад навагодніх карпаратываў да выездаў усім калектывам у падарожжа. Ездзілі ў Адэсу, збіраемся ў Львоў. Разам начуеце, атрымліваеце эмоцыі – гэта згуртоўвае.

### Што плануюць на будучае

У сувязі з падзеннем аб'ёму аказаных паслуг па рамонце абутку вырашылі ўкараніць новы від паслугі – хімічную чыстку абутку. Рамантуюць абутак усё радзей – цяпер абутак або аднаразовы, або такі, што носіцца доўга і не патрабуе рамонту.

Плануюць, што машына для хімчысткі будзе перасоўная, каб выязджаць, напрыклад, да спартыўнага комплексу. Машына апрацуе абутак хімічным рэчывам, пасушыць, зробіць антыбактэрыяльную апрацоўку адмысловымі лямпамі. Ставіш старыя брудныя красоўкі, а дастаеш – яны як новыя ад падэшвы да верхняга слоя, і ніякага паху. Плануюць адкрыць у сябе выраб індывідуальных вусцілак – яны патрэбныя людзям, у якіх ёсць асаблівасці ступні.

У цырульні па вуліцы Прытыцкага плануюць адкрыць барбер-зону. Адпраўляюць двух чалавек на навучанне ў Мінск, каб мець прафесійных барбераў. Абсталююць кава-зону, месца для адпачынку і масажнае крэсла.

**Усе аб'екты «Рамбыттэхнікі» адрамантавалі і прывялі ў належны выгляд. У цырульні «Купалінка» першымі ў горадзе размясцілі зону для стрыжкі дзяцей. Там ёсць тэлевізар з мульцікамі, цацкі, спецыяльнае крэсла.**




### Эканоміка арганізацыі

Аб'ём выручкі за гэтыя некалькі год павялічыўся больш чым удвая. Пры гэтым колькасць работнікаў не толькі не павялічылася, на некалькі чалавек скарацілася.

Ювеліры і работнікі па метале зарабляюць больш за 1000 рублёў, а майстар па рамонце абутку – 300-400. Сярэдні заробак за дзевяць месяцаў склаў 647 рублёў.

Стратны накірунак – сельскія комплексныя прыёмныя пункты. Зачыняць іх не маюць права па сацыяльных стандартах. Там працуе прыёмшчык, які прымае заказы ад мясцовых жыхароў. Напрыклад, рамонт абутку, бытавой тэхнікі.

Адтуль накіроўваюць на завод, паслугу выконваюць і заказ вяртаюць. Цырульнік выязджае ў вёскі па графіку.

За дзевяць месяцаў 2019 года аб'ём бытавых паслуг завода склаў 1 мільён 135 тысяч рублёў. Гэта 103% да аналагічнага перыяду мінулага года ў супастаўных цэнах.

Чысты прыбытак за студзень-верасень склаў 55 тысяч рублёў. Тэмп росту выручкі да аналагічнага перыяду мінулага года складае 114,3% у супастаўных цэнах.

### Прызнанне

Арцём Русакевіч стаў чалавекам года Міншчыны па выніках працы за 2018 год. Па выніках працы за 2017 год прадпрыемства было занесенае на рэспубліканскую Дошку гонару ў сферы паслуг.

Русакевіч займаецца барацьбой з дзяцінства. Арганізоўвае спаборніцтвы па барацьбе ў раёне. Заўзее за хакей, не прапускае ні аднаго матча «Дынама-Маладзечна» і «Дынама-Мінск». А таксама гульні сярэдняга сына Глеба, які выступае на пазіцыі нападаючага ХК «СДзЮШАР г.Мінска».

### Кандыдат у дэпутаты

Арцём Русакевіч – адзін з кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу сёмага склікання ад Гарадской акругі №72. Арцём Мікалаевіч нарадзіўся ў 1979 годзе, беспартыйны. Жыве ў Маладзечне.

Выбары прызначаныя на 17 лістапада.

УНП 600153255




# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Опель-Зафіра, 2000 г.в., аб'ём 1,8 бензін, у добрым стане. Т. (8-029) 8721624.*

• Фольксфаген-Пасат Б-3, універсал, 1990 г.в., д.1,9. Т. (8-033) 3137628.

• Шаўрале-Матыз у выдатным стане. Т. (8-029) 9139773.

• Гума зімовая Ханкок 205/55 R16 б/у, пратэктар 7 мм, 240 рублёў. Вілейка. Т. (8-029) 2745357.

• Дыскі-штампоўкі (жалеза) R14 (4x108), 4 шт., стаялі на Ford Escort, 55 руб. Т. (8-033) 366-81-81.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Запчасткі для Ford Escort 6 (1995-2000): дзверы ў зборы, капот, фара, заднія фары (універсал), люстэрка, упускны калектар, інжэктар (1.6 Zetec), дажджавік. Усё ў добрым стане, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

• Аўто! Іншамарку! У любым стане. Т. (8-029) і (8-044) 7769900.*

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 1236722, (8-033) 3265724.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, нядорага. Тэрмінова. Т. (8-029) 6525690.

• 2-пакаёвая светлая кватэра ў Маладзечне з рамонтам і мэбляй у выдатным раёне, 51,1/28,5; 8,8; 6/9. Т. (8-029) 3997088.*

• Гараж у ГБК-2, Вілейка, нядорага. Т. МТС (8-033) 6611354.*

### МЯНЯЮ

• 3-пакаёвую кватэру 62 кв. м у Наваполацку на 2-ці 1-пакаёвую кватэру ў Вілейцы. Альбо прадам. Т. 98-0290 2922439.

### ЗДАМ

• Пакой у Маладзечне. Т. (8-029) 5019550.*

## ПАСЛУГІ

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАР**. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты, гідрабур пад фундамент на палях (свайные фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044)5522028.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважын) дыяметрам 32 мм, 63 мм, 90 мм і 125 мм. Работы выконваем магутнай малагабарытнай устаноўкай. Спецыялісты атэставаныя на тэрыторыі РБ. Магчымы выезд для кансультацыі. Кошт работы ад 40 рублёў м/п. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245, (8-044) 5486213.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выканаем дахавыя работы любой складанасці. Гарантыя. ІП Дзядкоў С.Л. УНП 692241524. Т.(8-029) 2737650.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• **МАНТАЖ-ДЭМАНТАЖ** дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп'ютараў, ноўтбукаў, манітораў, планшэтаў. ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• **СПІЛОЎВАННЕ і АБРЭЗКА** дрэў. Магчымы вываз, выкарчоўванне пнёў. Скідкі. ІП Мамай Ю.А. УНП 691895935. Т. Вэлком (8-029) 3301964, МТС (8-029) 8177983.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

• Цэгла віцебская, вогнетрывалая, пячное ліццё, кладачныя сумесі. Т. (8-029) 8351640, (8-044) 7557072.*



**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



• Антэна спадарожнікавая. Т. (8-029) 5019550.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Карова дойная, 5 год. Т. (8-029) 6393772.*

• Парасяты в'етнамскія. Т. (8-033) 6816635, (8-0176) 503195.

• Цялушка цельная. Валожынскі раён. Т. (8-0173) 40012, МТС 5852547.

**Іншае**

• Дровы (абрэзкі), сасна, елка, 20-25 см, 10 куб.м, 25 рублёў за 1 куб.м. Дровы яблыні, 10 куб. м, 50 рублёў за 1 куб. м. Т. (8-044) 5770044.*

• Дровы нядорага, дастаўка бясплатна. Т. (8-029) 6106061.

• Электраводанагравальнік. Т. (8-029) 9139773.

• Сена. Т. (8-029) 6870898.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Ціскі, можна няспраўныя. Т. (8-029) 8794563.*

# «Вы не можаце верыць людзям у Расатаме»

## Былы намеснік міністра энергетыкі РФ Уладзімір Мілаў – пра БелАЭС



Фота Настассі УЛКІНАЙ.

Беларуская АЭС ля Астраўца.

**– У студзені ў Беларусі павінны быць запушчаны першы рэактар на Беларускай атамнай электрастанцыі – пакуль гэта яшчэ не будзе эксплуатацыя, а т.зв. фізічны ўвод у эксплуатацыю, але праект электрастанцыі ідзе наперад. Прадстаўнік Міністэрства энергетыкі Беларусі заявіў, што такая энергетыка дазволіць менш спажываць расійскі газ. У сваю чаргу Літва заяўляе, што гэта расійскі геапалітычны праект Расіі і таму ён вельмі насцярожвае. Афіцыйныя асобы ЗША задаюцца пытаннем, ці варта пастаўляць паліва на гэту электрастанцыю. Хаця ЗША заяўляюць, што неабходна забяспечыць, каб электрастанцыя працавала ў адпаведнасці са стандартамі, гэта значыць, было бяспечна. Ці могуць ЗША дапамагчы Беларусі тут?**

– На мой погляд, не – гэта расійскі рэактар. Да таго ж, я не разумею, чаму гэта зрабіла Беларусь, чаму яна будуе гэту АЭС. Мы не ведаем, колькі схаваных выдаткаў на гэту інвестыцыю, пра якую грамадства не ведае. Я займаўся пытаннямі эканомікі атамнай электрастанцыі ва ўрадзе і магу сцвярджаць – гэта кашмар. Увесь час узнікаюць новыя выдаткі, трэба ўсё больш і больш грошай.

Мінск заяўляе, што хоча паменшыць сваю залежнасць ад расійскага газу. Але яна застанецца залежнай ад расійскага ўрану, ядзернай тэхнікі і працы гэтай электрастанцыі, таму што АЭС – гэта той выпадак, што тут звычайна можа працаваць толькі той, хто яе пабудаваў. Тады вам давядзецца змагацца з праблемай ядзерных адходаў.

Што тычыцца імпарту адходаў для далейшай перапрацоўкі і фактычнага захоўвання, то мы фактычна маем манапольную Расію. Такім чынам, Расія можа зноў дыктаваць беларусам свой цэннік. Таму Беларусі ўсё адно прыйдзецца плаціць шмат.

Ёсць пытанні і адносна якасці гэтай працы. Апошнія будаўнічыя работы, у тым ліку здача рэактараў «Расатама», былі звязаныя з праблемамі і дрэннай якасцю працы.

Гэта было відаць пры будаўніцтве АЭС у Астраўцы. Яны ўпусцілі рэактар двойчы. У выніку ўзнік сур'ёзны канфлікт. Расіяне хацелі прымусіць Беларусь у канчатковым выніку пакінуць у Астраўцы рэактар, які ўпаў. Аднак Беларусь прымусіла іх забраць яго назад і паставіць новы. Калі мы бачым такія сур'ёзныя праблемы, узнікае пытанне, колькі яшчэ існуе схаваных праблем.

Відаць, што ў Расіі шмат праектаў, якія тычацца будаўніцтва АЭС у Расіі. Напрыклад электрастанцыя ў Варонежы з новым тыпам рэактара ВВЭР 1200, які будзе на АЭС у Астраўцы, мае праблемы ...

**– Гэта тая самая мадэль?**

– Варонежская электрастанцыя была вымушана спыніць працу. І вы бачыце, што яны спыняюць яе не раз. Новы блок працуе там – і з ім таксама шмат праблем.

**– Там ёсць новы блок з рэактарам ВВЭР 1200?**

– Той самы тып, хоць існуюць розныя, вядома, варыянты. Аднак можна заўважыць, што калі ў Расіі запускаюцца новыя блокі, зноў узнікаюць новыя праблемы.

Літаральна 15 гадоў таму Пуцін скасаваў незалежны рэгулятар атамнай бяспекі – Дзяржатамнагляд. Ёсць, канешне, сістэма ядзернага назірання. Але гэта не тое, што было раней. Шчыра кажучы – я дрэнна ацэньваю сітуацыю ў гэтым пытанні. Гаворка ідзе пра бяспеку нашай ядзернай энергетыкі.

Ліквідаваны ў значнай ступені грамадскі нагляд, і ў выніку ніхто не ведае, што там адбываецца. Як вядома, у выпадку з гэтымі непразрыстымі манаполіямі – такі стан рэчаў іх задавальняе.

Гэта небяспечна. Я рэкамендаваў бы беларускаму грамадству праявіць вялікую цікавасць да гэтага праекта. І добра, што за ім сочаць незалежныя СМІ. Таму што вы не можаце верыць людзям у Расатаме.

**Агнешка МАРЦЭЛА КАМІНЬСКА,**
**Польскае радыё.**

## Пасведчанне на права жыхарства ў Польшчы маюць амаль 25 тысяч беларусаў

Пра гэта паведаміў прэс-сакратар Дэпартамента па справах замежных грамадзян у Польшчы **Якуб Дудзяк**.

Згодна са звесткамі, пададзенымі дэпартаментам інфармацыйнаму агенцтву ПАП, колькасць замежнікаў у першых трох кварталах гэтага года павялічылася на 43,5 тысячы чалавек.

Найбольшае павелічэнне далі ўкраінцы – 30,8 тысяч (да 210 тысяч чалавек). На другім месцы беларусы – 4 тысячы 300 (да 24 тысяч 400 чалавек). Трэцяе месца займаюць грамадзяне Грузіі (1900 і 4,8 тысячы адпаведна), грамадзяне Індыі і Малдовы.

Гэтыя дадзеныя не ўключаюць асоб, якія часова знаходзяцца ў Польшчы ва ўмовах бязвізавага рэжыму або на падставе віз.

Замежнікі найахвотней селяцца ў ваяводствах з гарадскімі агламерацыямі і вялікай запатрабаванасцю на работнікаў.

**Паводле forsal.pl.**

## Вучні школы мастацтваў атрымалі дыпломы на міжнародным конкурсе

**СМАРГОНЬ**

Вучні Смаргонскай дзіцячай школы мастацтваў імя Агінскага прадставілі школу на IV Міжнародным конкурсе мастацтваў «Крыштальны васілёк» 18 і 27 кастрычніка.

**Міру Кавалёву** ўзнагародзілі дыпломам III ступені ў намінацыі «Эстрадны вакал, сола». Настаўніца – **Вера Яфрэмава**.

Дыпломы лаўрэатаў II ступені ў намінацыі «Выяўленчае мастацтва, майстар» атрымалі навучэнцы мастацкага аддзялення **Кацярына Багацкая** (настаўнік **Марыя Савіцкая**) і **Стэла Айрапецян** (настаўнік **Марына Пахомава**). Дзяўчынкі прадставілі на конкурс жывапісныя работы на тэму восені.

У намінацыі «Інструментальнае выканальніцтва, балалайка» **Алеся Паўлоўская** (настаўнік **Яна Вайцяховіч**, канцэртмайстар **Марыя Сарока**) узнагароджаная дыпломам І ступені.

Дыплома лаўрэата II ступені ў намінацыі «Інструментальнае выканальніцтва, цымбалы» удастоеная **Анастасія Шарупская** (настаўнік **Вольга Грагоўская**, канцэртмайстар **Марыя Сарока**). Лаўрэатам І ступені ў намінацыі «Інструментальнае выканальніцтва, фартэпіяна» стаў **Марк Каспяровіч** (настаўнік **Жанна Цялега**).

Дыпломамі за высокапрафесійную падрыхтоўку лаўрэата конкурсу і асабісты ўклад у развіццё інструментальнага мастацтва Беларусі адзначаныя Вольга Грагоўская і Жанна Цялега.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Мядзеле стане на адну вуліцу больш

**МЯДЗЕЛ**

У Мядзеле будуецца яшчэ адна вуліца. На ўскрайку райцэнтра, у напрамку возера Рудакова, з часам з'явіцца каля двух дзясяткаў прыватных сядзіб.

Работы праводзяцца ў адпаведнасці з горадабудаўнічым праектам «Генплан горада Мядзела Мінскай вобласці», які зацверджаны рашэннем сесіі раённага Савета дэпутатаў у 2012 годзе.

Дакумент прайшоў усе патрэбныя ўзгадненні: з камітэтам па архітэктуры і будаўніцтве Мінаблвыканкама, галоўным дзяржаўным санітарным доктарам раёна, дзяржаўнай экалагічнай экспертызай праекта абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Генплан атрымаў станоўчае экспертнае заключэнне рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Галоўдзяржбудэкспертыза». З генпланам можна азнаёміцца на стэндзе ў аддзеле жыллёва-камунальнай гаспадаркі, архітэктуры і будаўніцтва райвыканкама.

**Паводле Мядзельскага райвыканкама.**

## Павел Мацкевіч стаў прызёрам абласнога конкурсу «Шчасце маці»

**АСТРАВЕЦ**

Хлопчык напісаў ліст уяўнаму сябру, дзе прыводзіў розныя сітуацыі з жыцця сваёй сям'і і разважаў наконт таго, ці робіць яны шчаслівымі яго матулю.

На конкурс было даслана 38 сачыненняў, аўтары 18-ці ўзнагароджаныя дыпломамі розных ступеняў.

Незвычайную падачу думкі, кранальнасць і шчырасць бытавых момантаў адзначыла журы – і ва ўзроставай групе 13-14 гадоў Павел заняў другое месца.

**Паводле ostrovets.by.**

# Пенсія маці на дзвесце рублёў большая, чым заробак дачкі

## Высвятляем і параўноўваем заробкі і пенсіі ў рэгіёне і Беларусі

**ВІЛЕЙКА**

**Эксперты па дэмаграфіі кажуць, што ў грамадстве часта атаясамліваюць сталасць і беднасць. Ці так гэта? Звернемся да даследаванняў экспертаў і да гісторыі рэальнай сям'і з Вілейшчыны.**




### Дачка: увесь заробак – на камуналку і крэдыт

Знаёмцеся. Святлана, 39 гадоў. Святлана працуе медсястрой у адным з садкоў горада. Працуе на поўную стаўку. Зарабляе 400 рублёў.

Грошы невялікія, кажа жанчына. Адразу пасля заканчэння медкаледжа некалькі год ездзіла працаваць у Бараўляны. Заробкі былі добрыя.

Цяпер жа грошай менш, але вельмі задавальняе графік: ад васьмі да пяці, увесь дзень на месцы. Субота, нядзеля – заўсёды выхадныя, ніякіх начных змен. Двое дзяцей дагледжаныя. Увесь заробак Святланы часцей ідзе на выплату крэдыту за кватэру і камуналку. На ўсе астатнія выдаткі зарабляе муж, які працуе дальнабойшчыкам. Гэта і вопратка, і ежа, і мыйныя сродкі, і гурткі дзецям, і абслугоўванне аўтамабіля.

> **– Мужа не бачу часам і па два тыдні, і месяц. Але тут трэба выбіраць: ці бачыцца кожны дзень і жыць у безграшоўі, ці жыць больш-менш нармальна, але ахвяраваць іншым, – лічыць Святлана.**

І прызнаецца, што адкладаць не кожны месяц, але атрымоўваецца. Адкладзеныя грошы сям'я траціць на адпачынак летам, буйныя пакупкі тыпу мэблі і тэхнікі, рамонт аўтамабіля.

### Маці: пенсіі мне хапае. Дапамагаю дачцэ, набываю валюту

Жанчына родам з Вілейшчыны. У адной з вёсак Вілейскага раёна жыве яе маці – пенсіянерка **Алена**. Жыве адна, у сваім доме. Мае невялікую гаспадарку, сад і агарод. Працоўны стаж у Алены даволі вялікі, бо працаваць пачала яшчэ падлеткам. Штомесяц жанчына атрымлівае пенсіі (Увага!) шэсцьсот рублёў.

– Пенсіі мне хапае, – кажа Алена карэспандэнту. – Садавіну і гародніну амаль не купляю, маю ўсё сваё. Штогод трымаю двух парсюкоў, курэй. Адзенне купляю рэдка. Паспець бы панасіць тое, што ёсць.

Асноўны артыкул расходаў, камуналка і лекі. Вяскоўка кажа, што мае праблемы з ціскам. Каб адчуваць сябе больш-менш нармальна, штомесяц траціць на лекі каля ста рублёў. Па дробязях – на ежу, мыйныя сродкі, паездкі ў Вілейку да доктара і да дачкі.

– Штомесяц купляю патроху валюты, каб было на чорны дзень. Па магчымасці, матэрыяльна дапамагаю дачцэ. Такая сітуацыя ў большасці маіх знаёмых, – падсумавала суразмоўца.

### Даследчыкі: пенсіянераў, што жывуць у беднасці, крыху больш за 1%

Гутарка са Святланай і Аленай кажа пра тое, што пенсіянеры – далёка не самая бедная катэгорыя грамадства ў Беларусі. А што ж даследчыкі?

На першым Форуме годнага даўгалецця, што ладзілі сёлета ў Мінску на пачатку кастрычніка, прагучалі лічбы з даследаванняў Інстытута прыватызацыі і менеджменту – незалежнага аналітычнага цэнтра, што ад 1999 года працуе ў сферы эканамічных і сацыяльных даследаванняў. У прыватнасці, даследаванне 2019 года «Беднасць і сацыяльна ўразлівыя групы насельніцтва ў Беларусі. Дэмаграфічныя і эканамічныя фактары беднасці».

Згодна з даследаваннем, узровень беднасці па Беларусі наступны:

- дзеці да 17 год – 11,1%
- дарослыя (18-64) – 5,9 %
- сем'і, якія маюць трох і больш дзяцей – 28,9%
- людзі ва ўзросце 65+ – 1,3%

Такім чынам, і даследчыкі-дэмографы сцвярджаюць, што ў параўнанні з іншымі катэгорыямі насельніцтва пенсіянеры ў Беларусі – гэта людзі з самымі высокімі даходамі.

**Аксана ЯРАШОНАК (тэкст і графіка).**



Фота frenchparis.ru

Страсбург – сталіца Эльзаса.

# Што агульнага ў Беларусі і Эльзаса

**Страсбург – французскі горад на самай мяжы з Германіяй. Таму зусім нечакана знаходзіць тут сувязь з Беларуссю.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ

Факсіміле Канстытуцыі Рэчы Паспалітай 3 мая 1791 года ў будынку Рады Еўропы.




Фота Зоі ХРУЦКАЙ

Сувеніры з бусламі – самыя папулярныя ў Страсбургу.

Назва горада перакладаецца як «Горад Дарог». Яго часам называюць скрыжаваннем Еўропы, таму што менавіта праз Страсбург праходзяць многія шляхі, што злучаюць розныя краіны. Тут размешчаная Рада Еўропы і Еўрапейскі суд па правах чалавека.

### Горад дарог

Страсбург – сталіца рэгіёна Эльзас, які ўвайшоў у Францыю ў 1681 годзе. Пасля гэтага тэрыторыя неаднаразова пераходзіла ў склад розных краін. Гісторыя Эльзаса ў нечым пераклікаецца з беларускай – мясцовасць неаднаразова трапляла пад сферы ўплыву імперый і прыгнёт.

У 10 стагоддзі Эльзас быў часткай Свяшчэннай Рымскай імперыі. У 1648 частку Эльзаса атрымала Францыя па Вестфальскім міры. У 1871 тэрыторыю анексавала Германія.

У лістападзе 1918 тут стварылі Эльзаскую савецкую рэспубліку. Пасля лістападаўскай рэвалюцыі ў Германіі сюды вярталіся маракі з Імперскага флоту. Тут іх сустрэлі мітынгам, які закончыўся абвяшчэннем Рабочага і Салдацкага Савета Страсбурга. Савецкую ўладу ўстанавілі ў шэрагу іншых гарадоў. На выбарах старшыні Савета абралі сакратара прафсаюза півавараў. Абвясцілі незалежнасць ад Берліна і народную ўладу ў рэспубліцы.

### Мова

У гэтым жа месяцы французская армія акружыла Палац Правядлівасці. Страсбург далучыўся да Францыі.

> **Эльзаская мова была прымусова афранцужаная. Яе забаранілі выкарыстоўваць у школах і на дзяржаўнай службе.**

Падчас Другой сусветнай вайны Эльзас анексаваў Трэці рэйх. У 1945 годзе рэгіён вызвалілі ад захопнікаў. Цяпер Эльзас – французскі рэгіён, дзе пануе французская мова.

> **Але каб захаваць эльзаскую, ад 1992 года існуюць двухмоўныя школы. На эльзаскай ставяць некаторыя спектаклі, публікуюць некаторыя артыкулы ў мясцовай прэсе.**

### Буслы

Мова і гістарычныя складанасці – не ўсё, што аб'ядноўвае Беларусь і Эльзас. Белыя буслы – адзін з галоўных сімвалаў Беларусі. Не паверыце, але менавіта гэта птушка – самы знакаміты сімвал Страсбурга. Сувеніры з выявай буслоў ёсць ва ўсіх магазінах з таварамі для падарункаў. Калі вы думаеце, што бачылі шмат буслоў у Беларусі, то вы проста не былі ў Страсбургу ў пачатку красавіка.

Эльзасцы таксама лічаць, што буслы нясуць удачу і шчасце. Калісьці буслоў было шмат, але пасля асушэння балот у 1960-х гадах уздоўж Рэйна папуляцыя рэзка скарацілася. У 1980 годзе ў рэгіёне засталося тры буслянкі. Тады мясцовыя ўлады вырашылі арганізаваць гадавальнік, каб маладыя буслы жылі там першыя гады. За гэты час у птушак знікае інстынкт ляцець у вырай, і яны застаюцца зімаваць у Эльзасе.

### Першая Канстытуцыя Еўропы

Будынак Рады Еўропы ў Страсбургу змяшчае бясцэнныя культурныя набыткі еўрапейскіх краін. Яны стаяць у празрыстых шафах як сведкі самых значных гістарычных падзей. Тут ёсць грэчаская амфара, якая бярэ пачатак за некалькі стагоддзяў да нашай эры.

> **Справа ад галоўнага ўвахода размешчаная факсіміле Канстытуцыі 3 мая 1791 года – першай еўрапейскай Канстытуцыі.**

Кнігу падаравала Польшча ў 1994 годзе. І падпісанае факсіміле як польская канстытуцыя. Хаця яна такая ж польская, як і беларуская. Гэта асноўны закон Рэчы Паспалітай, у склад якой на той момант уваходзілі сучасныя беларускія землі.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Беларусы ўзялі 10 медалёў на чэмпіянаце Еўропы па спартыўнай акрабатыцы

Дзесяць медалёў заваявалі беларусы па выніках чэмпіянату Еўропы па спартыўнай акрабатыцы, які праводзіўся ў ізраільскім Халоне.

**Артур Белякоў** і **Вольга Мельнік** занялі другое месца ў фінале дынамічных практыкаванняў. Гамяльчане **Арцём Ягачанка** і **Аляксей Заяц** выйгралі бронзу ў балансавых практыкаваннях мужчынскіх пар. Раней два срэбры заваявалі ў стартах змешаных пар беларусы **Канстанцін Яўстаф'еў** і **Вольга Касьян**. У дынамічных практыкаваннях жаночых груп бронзавы медаль заваявалі **Ганна Кацуба**, **Крысціна Лішова** і **Дар'я Іванюценка**, а сярод мужчынскіх пар на трэцюю прыступку п'едэстала падняліся **Максім Маркевіч** і **Алег Міхалевіч**.

**Паводле Беларускай асацыяцыі спартыўнай акрабатыкі.**

## Сабаленка паднялася на 11-е месца ў рэйтынгу жаночай тэніснай асацыяцыі

Беларуска **Арына Сабаленка** паднялася на 11-е месца ў рэйтынгу жаночай тэніснай асацыяцыі (WTA). Да гэтага Сабаленка займала 14-ю пазіцыю, а пасля перамогі на малым выніковым турніры WTA ў кітайскім Чжухаі перамясцілася на тры пазіцыі вышэй, набраўшы 3 120 ачкоў.

**Топ-10 абноўленага рэйтынгу WTA:**

1. Эшлі Барці (Аўстралія) – 7 851 ачко,
2. Караліна Плішкова (Чэхія) – 5 940,
3. Наомі Асака (Японія) – 5 496,
4. Сымона Халеп (Румынія) – 5 462,
5. Б'янка Андрэеску (Канада) – 5 192,
6. Эліна Світоліна (Украіна) – 5 075,
7. Петра Квітава (Чэхія) – 4 776,
8. Бялінда Бенчыч (Швейцарыя) – 4 745,
9. Кікі Бертэнс (Нідэрланды) – 4 245,
10. Серэна Уільямс (ЗША) – 3 935.

**Вікторыя Азаранка** займае 50-е месца (1 115 ачкоў), **Аляксандра Сасновіч** знаходзіцца на 67-й пазіцыі (858), у **Вольгі Гаварцовай** 194-е месца (391), **Вера Лапко** займае 328-ы радок сусветнага рэйтынгу (161).

**Паводле wtatennis.com.**



Фота Андрэя РАГІНСКАГА.

Момант дамашняй гульні ФК «Маладзечна» з ФК «Івацэвічы» (2:0), перамога ў якім гарантавала маладзечанцам бронзу другой лігі.

# Буйное паражэнне «Андэрдога», чарговая перамога «Ашмянаў»

## Як прайшлі выхадныя ў камандаў Павілля

**Футбольны сезон набліжаецца да завяршэння. У выхадныя каманды Павілля правялі сустрэчы, у якіх змагаліся за больш высокія месцы, дадатковыя ачкі ў сваю скарбонку.**

У другой лізе сёлетні сезон скончыцца праз два тыдні, а ФК «Смаргонь» правядзе гульню яшчэ 23 лістапада.

### ФК «Андэрдог» атрымаў шэсць галоў ад Дзяржынска

Падначаленыя **Мятліцкага** згулялі ў апошнім туры супраць лідара турнірнай табліцы дзяржынскага «Арсенала». Футбалісты пад кіраўніцтвам **Ясковіча** забілі пяць мячоў ужо ў першым тайме. **Арцём Міраеўскі** адзначыўся хет-трыкам, а **Мікіта Пацко** аформіў дубль. У сваю чаргу, чысцінцы не змаглі рэалізаваць ніводнага моманту. Толькі **Яўген Бяляўскі** атрымаў жоўтую картку.

У другім тайме **Арцём Кійко** зрабіў лік гульні 6:0, а футбалісты «Андэрдога» зноў не адзначыліся нічым, акрамя жоўтых картак ад галоўнага рэферы **Яўгена Навумава**.

Пасля 28 тура «Андэрдог» застаецца на чацвёртым радку турнірнай табліцы. Наперадзе знаходзяцца маладзечанцы, ашмянцы і «Арсенал».

**9 лістапада** – супраць «Белшыны-2» (Бабруйск).

**16 лістапада** – супраць «ДЮСШ-3-Стэнлес» (Пінск).

### Трэцяе месца «Маладзечна»

У 28 туры маладзечанцы згулялі з «Вікторыяй» з Мар'інай Горкі. У выязным матчы футбалісты **Вяргеенкі** забілі тры мячы. У аўтарстве **Уладзіслава Кнаацько-Штэрка** – два галы, а **Ігар Анцыпаў** адзначыўся адным дакладным ударам у вароты саперніка. У «Вікторыі» рэалізаваў момант **Уладзіслаў Цурко**.

У мінулым туры маладзечанцы забяспечылі сябе трэцім месцам і першым бронзавым медалём з 2009 года. А ў турнірнай табліцы ў зялёна-белых 21 перамога, адна нічыя і пяць паражэнняў.

А **9 лістапада** апошні матч гэтага сезона ФК «Маладзечна» правядзе супраць каманды «Нёман-Агра» са Стоўбцаў.

### Ладуцька ратуе «Ашмяны»

На дамашнім полі ашмянцы, якія займаюць другое месца ў другой лізе, згулялі супраць каманды з Горак. **Павел Вакуліч** адкрыў лік на дзясятай хвіліне гульні, **Дзяніс Лукашаў** з «Горак» адзначыўся аўтаголам на 23-й хвіліне. Ашмянцы дамінавалі нядоўга – сапернік **Яўген Латышаў** забіў з 11-метровай адзнакі.

Той жа Латышаў у другім тайме зраўняў лік у гульні. А **Януш Ладуцька** ў апошнія дзесяць хвілін забіўратавальны мяч, які і прынёс перамогу і тры ачкі «Ашмянам». **Ляхновіч** і **Нікулін** з «Ашмянаў» атрымалі па жоўтай картцы ад рэферы **Галадухіна**.

**9 лістапада** – супраць «Арсенала» (Дзяржынск).

**16 лістапада** – супраць «Белшыны-2» (Бабруйск).

### У «Смаргоні» класічная нічыя

Смаргонцы завяршаюць чарговы тур з нічыёй. Гэта ўжо шостая сустрэча ў сезоне для «Смаргоні» з роўным лікам. Падначаленыя **Радненкі** не рэалізавалі ніводнага моманту ў гульні са «Слонімам». Сустрэча запомнілася гледачам багаццем жоўтых картак, якія на працягу ўсёй гульні раздавала брыгада суддзяў на чале з **Дзмітрыем Маркавым**.

> Галоўны рэферы паказаў дзесяць «гарчычнікаў».

А **Уладзіслава Зубрыцкага** са слонімскай каманды ўвогуле выдалілі на 88-й хвіліне сустрэчы. Гульня завяршылася з лікам 0:0.

**9 лістапада** – супраць «Смалявічаў».

**16 лістапада** – супраць «Граніта» (Мікашэвічы).

**23 лістапада** – супраць «Хвалі» (Пінск).



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## Чэмпіянат Еўропы па муай-тай стартаваў у Мінску

Чэмпіянат Еўропы па тайскім боксе, ці муай-тай стартаваў 5 лістапада ў Палацы спорту.

Беларусь на кантынентальным форуме прадставілі 90 атлетаў (дарослыя і юніёры). Сярод іх пераможцы і прызёры міжнародных спаборніцтваў, чэмпіянатаў Еўропы і свету **Дзмітры Варэц** (67 кг), **Андрэй Кулебін** (71 кг), **Віталь Гуркоў** (75 кг), **Зміцер Валент** (86 кг), **Дар'я Бялькова** (60 кг). У спаборніцтвах прымаюць удзел больш за 520 спартсменаў з 26 краін.

Завершацца спаборніцтвы 10 лістапада.

**Паводле belta.by.**

## Беларускія шашысты выйгралі сем медалёў на юніёрскім чэмпіянаце свету ў Турцыі

Беларускія спартсмены заваявалі сем медалёў на юніёрскім і кадэцкім чэмпіянаце свету па шашках-100, які завяршыўся ў турэцкім Ізміры.

У класічнай праграме сярэбранымі прызёрамі сталі беларусы **Яна Якубовіч** і **Вікторыя Нікалаева**. Бронзавыя ўзнагароды заваявалі іх партнёры па камандзе **Марыя Часнакова** і **Дар'я Нікіфарава**.

У маланкавай гульні чэмпіёнкай свету стала беларуска **Яна Якубовіч**. **Георгі Выдэрка** размясціўся на другім месцы, Вікторыя Нікалаева – на трэцім. Уперашыню на юніёрскім і кадэцкім чэмпіянаце свету быў падведзены камандны залік. Па выніках класічнай праграмы зборная Беларусі стала трэцяй, у маланкавай гульні заняла другі радок.

**Паводле Беларускай федэрацыі шашак.**




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
3. Аўтар рамана «Сэрца на далоні».
4. Невялікі мастацкі твор, напісаны рытмізаванай мовай.
5. Амерыканскі псіхалагічны трылер 2019 года, які атрымаў вялікі фінансавы поспех у пракаце.
6. Дэталь, якая замацоўвае ўзрывальнік ручной гранаты для засцярогі ад нясвоечасовага выбуху.
7. Адзінка часу ў 60 мінут, якую адлічваюць ад поўдня ці ад сярэдзіны ночы.
11. Заканамернае, рэгулярнае кола якіх-небудзь з'яў, дзеянняў, працэсаў.
12. Імператар у «Свяшчэннай Рымскай імперыі» і Германскай імперыі.
14. Навыкі, веды, якія чалавек атрымоўвае ў выніку свайго навучання або жыццёвага досведу.
16. Дзесяціногі караткахвосты рак, пераважна марскі.
17. Рабочы пакой у доме, кватэры.
18. Плецены або драўляны дзіцячы ложак.
21. Насякомае сямейства пчаліных з тоўстым, укрытым густымі валаскамі целам.
22. Гэту краіну лічаць радзімай так званых блышыных рынкаў. А назва з'явы пайшла ад таго, што старыя рэчы былі поўныя блох.
23. Месца, адкуль выцякае рака, ручай.
24. Гэты вядомы аўстралійскі снарад знакаміты тым, што робіць тое самае, што і паштовыя галубы.
25. Менавіта ён быў настолькі ж важным складнікам харчавання ў Еўропе сярэдніх вякоў, як рыс у Азіі.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Недахоп або адсутнасць харчовых прадуктаў як масавае няшчасце з прычыны неўраджаю, вайны.
2. Грандыёзнасць, незвычайная сіла праяўлення чаго-небудзь, што выклікае вялікую павагу.
4. Беларускі дзіцячы часопіс, у якім у 1946 годзе пачаў працаваць Пімен Панчанка.
8. Зямельны ўчастак, які выдзяляўся сялянскай сям'і.
9. Выпадкова, ненаўмысна.
10. Штучна выкліканы сон са стратай прытомнасці і болевай адчувальнасці.
13. Спевы.
15. У сярэднявечнай Еўропе засохлыя скарынкі хлеба выкарыстоўвалі замест іх.
16. Не было зарэгістравана ні аднаго выпадку алергіі на гэту гародніну сямейства гарбузовых.
19. Напускаць сабак.
20. Практычны дзеяч у галіне права.
23. Які захапляе, зачароўвае сваім выглядам, прыцягвае да сябе.
26. Паўночны вецер.

## ● ГАРАСКОП на 8-14 ЛІСТАПАДА


**АВЕН.** Настрой у вас будзе, нібы тыя арэлі. Пастарайцеся асабліва не паддавацца эмоцыям. Рызыкаваць у гэты перыяд таксама не варта. Калі не ўпэўненыя, што справа атрымаецца, лепш прытрымаць старт. У асабістым жыцці пазбягайце перамен.


**ЦЯЛЕЦ.** У працы ўсё будзе роўна і спакойна, можна нават крыху расслабіцца. Пастарайцеся прысвяціць час здароўю – наведайце тых спецыялістаў, у якіх даўно не былі. Прафілактыка ў гэтай справе не бывае лішняй. Сардэчныя пытанні могуць быць для вас цяжарам, які захочацца як мага хутчэй вырашыць.


**БЛІЗНЯТЫ.** На гэтым тыдні ў вас будзе шмат эмоцый, а спраў столькі, што падасца, нібы ім няма канца. А самае выдатнае, што нічога не будзе замінаць вам паспець справіцца з усім. Любімыя людзі будуць рады вас падтрымаць і парадаваць тую пяшчоту і цеплыню, якая будзе вам неабходная.


**РАК.** Гэты тыдзень будзе паспяховым, калі ў вас атрымаецца апынуцца ў патрэбным месцы ў патрэбны час. Гэта дазволіць атрымаць вельмі выгадныя для вас дамоўленасці. Важна своечасова браць на сябе адказнасць – і тады будзе шанцаваць як у службовых пытаннях, так і ў каханні.


**ЛЕЎ.** Дамашнія справы і высвятленне адносінаў будуць забіраць вельмі шмат энергіі і часу. Ёсць рызыка, што вы нагаворыце лішняга ў запале эмоцый. Пастарайцеся часцей быць у кампаніях. Новыя знаёмствы могуць прынесці шмат карысных набыткаў.


**ДЗЕВА.** Усе спрэчныя пытанні вы зможаце вырашыць цалкам спакойна і так, што абодва бакі застануцца задаволенымі. Выдатны перыяд, каб атрымаць новыя веды і пачаць вучыцца чаму-небудзь новаму. З каханым чалавекам вас будзе аб'ядноўваць агульная справа, якая ўмацуе вашы адносіны.


**ШАЛІ.** Усё, што вы пачняце на гэтых днях, будзе развівацца хутка. Вы зможаце не толькі выканаць вялікі аб'ём працы, але і затрымаць увагу важных для вас людзей на тым, што захочаце ім данесці.


**СКАРПІЁН.** Вы зможаце праявіць сябе з нечаканага для іншых боку. Не бойцеся імправізаваць, гэта ў вас будзе атрымоўвацца выдатна. Каб не было непаразумення з блізкімі, выказвайце свае пажаданні прама.


**СТРАЛЕЦ.** Добры час, каб заняцца кар'ерным ростам. У асабістым жыцці многае будзе збывацца проста на месцы. Паспрабуйце трымацца графіка. Добры перыяд, каб абмеркаваць будучае.


**КАЗЯРОГ.** Вашы планы змогуць увасобіцца з дапамогай сваякоў або блізкіх сяброў. Уся атрыманая інфармацыя будзе карыснай і важнай. У рамантычных адносінах з вамі захочуць пазнаёміцца бліжэй. А вось як будуць развівацца адносіны далей, залежыць толькі ад вас.


**ВАДАЛЕЙ.** Складанасці, якія ўзнікнуць на вашым шляху, даўно вам вядомыя. Як і тое, якім чынам іх вырашаць. У сям'і давядзецца аддаць час на тое, каб зрабіць жыццё камфортным.


**РЫБЫ.** Вы будзеце працаваць шмат і пры гэтым не стамляцца. Атрымаеце цудоўны шанец змяніць кола знаёмых.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 4 | | | | 7 | 2 | |
| 6 | | | | 7 | 2 | | 1 | |
| | | | | 3 | 1 | | 6 | 8 |
| | 6 | | | | | 9 | | 2 |
| | | | 6 | 9 | 5 | | | |
| 3 | 4 | | 1 | | | | | |
| 8 | | | 3 | | | 2 | | |
| | 9 | | | | | | 5 | 7 |
| 4 | 5 | | | | | 8 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

## Адказы на крыжаванку з №44

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Вока. 3. Санкцыя. 4. Сірата. 8. Адказчык. 9. Цугцванг. 10. Замак. 12. Малаток. 13. Кветкай. 18. Зёлкі. 21. Ападкі. 23. Мазоль. 25. Скіпетр.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Мода. 5. Анкета. 6. Выцяжка. 7. Голад. 11. Змест. 14. Гадзіна. 15. Вакансія. 16. Вучань. 17. Апора. 18. Заказ. 19. Валюта. 20. Мадэль. 22. Асілак. 23. Меліса. 24. Заколка.

# Рэгіянальная газета. Rh.by






## Чытайце праз тыдзень:

- «Мова нанова» ў Маладзечне распачала новы сезон. Якія вядучыя будуць праводзіць заняткі? Каго чакаць у якасці гасцей? Усе паролі і яўкі чытайце праз тыдзень.

## 9 лістапада, субота

**Вецер:** паўднёва-ўсходні, 4-5 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература -8,1°С у 1988 годзе
Максімальная тэмпература +11,9°С у 1997 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 8,8 мм у 1979 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Чалавек без газеты – як дрэва без лісця. Падпішыся на «РГ!»



### Падпісацца на «РГ» можна:

**праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

**на пошце**
**праз паштальёна**
**праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**
- на месяц – 4 рублі 90 капеек;
- на квартал – 14 рублёў 70 капеек;
- на паўгоддзе – 29 рублёў 40 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**
- на месяц – 15 рублёў;
- на квартал – 45 рублёў;
- на паўгоддзе – 90 рублёў.

Вы можаце скарыстаца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Чым вы звычайна займаецеся на вялікіх выхадных?



**Аляксей Русаковіч, слесар:**
– На вялікіх выхадных звычайна займаюся рыбалкай. Езджу або з сябрамі, або адзін – як калі.



**Сяргей Шыман, педагог:**
– Выкарыстоўваю гэты час для падпрацоўкі. «Калі маеш грошы, то і сам харошы». Грошай шмат не бывае. А хацелася б ці канапы, ці шашлыкоў на прыродзе.



**Таццяна Вераценнікава, індывідуальны прадпрымальнік:**
– Я ўвесь свой вольны час прысвячаю сям'і.



**Кацярына Панасенка, гаспадыня:**
– Ездзім з мужам на дачу. Мы праводзім там вельмі шмат часу. Я яшчэ ў дэкрэце, таму вольнага часу дастаткова многа.



**Марына Тукайла, беспрацоўная:**
– На вялікіх выхадных ёсць магчымасць пачытаць, знаяцца любімым хобі, сустрэцца з сябрамі.



**Павел Кулеш, беспрацоўны:**
– Праводжу час з сям'ёй, ездзім у госці да бацькоў у вёску.



**Аляксей Шэмет, намеснік дырэктара:**
– Я працую. У мяне няма выхадных, таму я ўвесь час і працую.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**


Рэгіянальная газета. Rh.by Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№45 (1280) 8.11.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1817. Падпісана ў друк у 9.00 6.11.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.